ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 32 12 жніўня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

(2330) Цана 10 рублёў.

## І СТЫХІЯ СУПРАЦЬ НАС



Вада прынесла вялікую бяду. Дажджы паднялі ўзровень вады ў Прыпяці больш як на 4 метры. 29 ліпеня рака выйшла з берагоў і затапіла многія прысядзібныя ўчасткі жыхароў і калгасныя палі Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Петрыкаўскага і Нараўлянскага раёнаў.

Амаль за двое сутак рэчкі Льва, Гарынь і Прыпяць пакінулі свае берагі. Тоны вады змялі на сваім шляху нетрывалыя дамбы і ўмацаванні, залілі тысячы гектараў лесу, сенажацей, палеткаў, адрэзалі хутары і нават цэлыя вёскі ад цэнтра. Дзесяткі сем'яў у гэтыя дні аказаліся без жылля. Некалькі дзён людзі былі ў трывожным чаканні: узровень вады ўвесь час падымаўся. І толькі 2 жніўня Гарынь здалася.

У гэтыя ж дні над Буда-Кашалёвам пранёсся навальнічны ўраган. Разам з праліўнымі дажджамі ён знішчыў у эксперыментальных базах "Наровічы" і "Пенчын" пасевы збожжавых і зернебабовых на плошчах 1100 гектараў, бульбы — на 150, караняплодаў — на 50, кукурузы — на 150, насенных траў — на 132, канюшыны — на 300, аднагадовых траў — на 73 гектарах. Былі пашкоджаны лініі электр[illegible]адач, тэлефонныя лініі, вытворчыя [illegible]ылыя памяшканні, прысядзібныя ўчасткі грамадзян.

Раніцой пасля ўрагану на зямлю балюча было глядзець. Паваленыя дрэвы, дзенідзе скінутыя на зямлю дахі хат, скрышаныя сады. Па агародах і палях нібы хто з касой прайшоўся і скошанае ўтаптаў у зямлю. На прысядзібных участках жыхароў усё ці бадай усё было знішчана.

У палескіх раёнах Гомельшчыны ўдар стыхіі аказаўся вельмі балючым: страты складаюць 500 мільярдаў рублёў. Паводка нарадзіла праблемы, якія давядзецца вырашаць не адзін год.

НА ЗДЫМКАХ: паводка нарабіла вялікай бяды на Гомельшчыне; вада затапіла дом і панадворак мужа і жонкі СВІРЫДЗЁНКАЎ у вёсцы Бярэзнікі.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.



*ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ*

## "САКАВІК" ПАСЛЯ ПРАЦЯГЛАЙ ЗІМЫ

**Вясной гэтага года было створана новае грамадскае аб'яднанне — дзіцячы фонд духоўнага і інтэлектуальнага адраджэння "Сакавік". Фактычна, справу добраахвотнікі фонду пачалі яшчэ два гады назад, а ініцыятарам яе быў Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі ў Лондане, на чале якога стаіць айцец Аляксандр Надсон, апостальскі візітатар для беларусаў. За гэты перыяд усталяваны цесныя кантакты са шпіталямі, паліклінікамі, дзіцячымі дамамі, школамі-інтэрнатамі, урачамі і пацыентамі. Быў арганізаваны аздараўленчы адпачынак амаль 400 беларускіх дзяцей у Англіі і Італіі. З прычыны цяжкага эканамічнага становішча круг патрэб толькі шырыўся, узнікалі і н[illegible] праблемы. Гэта не магло не адбіцца на дзейнасці фонду, яго [illegible]х і накірунках. Пра пачатак станаўлення новай дабрачыннай арганізацыі, яе бліжэйшыя мэты і задачы расказвае адзін з яе арганізатараў Таіса БАНДАРЭНКА.**

"Мой адрес — не дом и не улица, мой адрес — С[illegible]етский Союз"... Радкі гэта[illegible] шлягера ў пачатку сямідзесятых даносіліся з вокнаў дамоў, яны гучалі па радыё і тэлебачанні. На адной шостай сушы іх спявалі моладзь і дарослыя. Усе яны ў той час належалі да адной "вялікай нацыі" — савецкага народа. "Столица нашей Родины — Москва, порт пяти морей", — старанна зацвярджвалі пакаленні беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Усё гэта было ўзведзена на ўзровень падсвядомасці. Мала хто з дзяцей сямідзесятых і нават васьмідзесятых (не будзем ужо згадваць больш ранні час) уяўляў сабе, што ёсць яго Бацькаўшчына. Ці ведалі яны, што геаграфічны цэнтр Еўропы знаходзіцца ў Беларусі і што гэта тычыцца не толькі геаграфіі. Менавіта таму цяпер гучаць сенсацыяй імёны і факты жыцця славутых беларусаў Рагнеды, Сімяона Полацкага, Францішка Скарыны і тых, хто стаіць да нас бліжэй, — Максіма Гарэцкага, Наталлі Арсенневай, і тых, хто аддаў свой талент на алтар чужой культуры.

Адлучаючы ад культуры і мовы, шліфавальшчыкі ад ідэалогіі старанна выхоўвалі ў дзіцячых душах комплекс непаўнацэннасці, правінцыйнай сарамлівасці за свой народ. У выніку разбурана сувязь пакаленняў, страчаны і забыты традыцыі, звычаі ў супольным жыцці, большая частка насельніцтва адцуралася сваёй мовы.

Сённяшняе кіраўніцтва краіны, занятае выключна палітычным самавыратаваннем, не забяспечвае ўмовы для суладнага выхавання дзяцей, для рэалізацыі іх імкненняў да самасцвярджэння, самаўдасканалення. Крызіс духоўнасці, маруднае пераадоленне афіцыйнымі структурамі старых стэрэатыпаў у культуры і адукацыі ставяць сур'ёзныя патрабаванні перад кожным сумленным чалавекам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## АНОНС

**З наступнага нумара пачынаем друкаваць навукова-папулярны нарыс Станіслава ЦЯРОХІНА "МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО" з гісторыі ордэна езуітаў.**

**Кніга ўтрымлівае мноства фактаў, абнародаваных упершыню. Цікавы і ўласны беларускі погляд аўтара на ролю езуітаў у гісторыі Бацькаўшчыны.**

ВОДГУЛЛЕ ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

# РАБОТЫ ХОПІЦЬ УСІМ

**На пытанні карэспандэнта "Голасу Радзімы" адказвае першы намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (Беларускае таварыства "Радзіма") Мікалай ВАСІЛЁНАК.**

**— Мікалай Іванавіч, ці прымала Беларускае таварыства "Радзіма" ўдзел у падрыхтоўцы Першага з'езда беларусаў свету?**

— Прымала, але з правам дарадчага голасу, калі можна так сказаць. Ініцыятыва склікання з'езда належала згуртаванню "Бацькаўшчына", яна і была галоўным арганізатарам. Па нашай просьбе "Бацькаўшчына" запрасіла на з'езд 18 беларусаў з далёкага замежжа — Аргенціны, Канады, Злучаных Штатаў, Францыі, а таксама суайчыннікаў з Польшчы.

**— Выкажыце, калі ласка, сваё ўражанне ад з'езда.**

— Ідэя склікання такога форуму вельмі правільная і наспела даўно, але я маю і шэраг заўваг, якія хацеў бы выказаць. На з'ездзе ўвесь час падкрэслівалася, што з'езд павінен аб'яднаць усіх беларусаў, але чамусьці пры запрашэнні дэлегатаў стаўка была зроблена ў асноўным на замежную эміграцыю 1944—1945 гадоў, як пропуск на з'езд было веданне беларускай мовы. І, з аднаго боку, гэта правільна. Але хіба вінаватыя, напрыклад, аргенцінскія беларусы, якія выязджалі да 1939 года з Польшчы, дзе забаранялася беларуская мова, што яны яе дрэнна ведалі. У Аргенціне таксама не заўсёды ствараўся беларускі нацыянальны асяродак, і родная мова паступова забывалася. Але ж душа ў гэтых людзей засталася беларускай і любоў да Бацькаўшчыны не меншая, чым у тых, каму ўдалося захаваць сваю мову.

Амаль забыта і трэцяя хваля беларускай, зусім нядаўняй эміграцыі. Гэта нашы жанчыны, якія павыходзілі замуж у чужыя краіны, але бацькі іх тут жывуць, зямлю сваю яны не забылі. Ды і наогул не перасталі быць беларусамі, вельмі патрэбна ім повязь з Радзімай.

**— А таварыства "Радзіма" не мела магчымасці запрасіць іх на з'езд?**

— Па нейкіх незразумелых нам прычынах атрымалася так, што магчымасць у нас з'явілася са спазненнем. Людзі ўжо не паспелі б прыехаць. Пярэчанні, якія мы чулі ад арганізатараў з'езда, не заўсёды былі пераканаўчымі. Калі мы прапаноўвалі запрасіць членаў Федэрацыі рускіх канадцаў, нам пярэчылі, што гэта Федэрацыя рускіх канадцаў, хаця ўсім ужо даўно вядома, што і кіраўніцтва гэтай прагрэсіўнай арганізацыі, і большасць яе членаў — беларусы. У Саюзе савецкіх грамадзян Бельгіі таксама многа беларускіх жанчын, але адтуль ніхто не прыехаў. Назву сваёй арганізацыі нашы землякі, мусіць, не паспелі яшчэ змяніць, дарэчы, мы і самі зусім нядаўна перасталі быць савецкімі.

**— Як пацвярджэнне таго, што землякі, пра якіх вы гаворыце, з'яўляюцца сапраўднымі патрыётамі, можа быць канкрэтная дапамога, што яны прывезлі з сабой на Радзіму?**

— Думаю, што іх справы — лепшы доказ іх любві да Бацькаўшчыны. Пастар з Германіі Міхаіл Мельнік ужо на працягу некалькіх гадоў рэгулярна прывозіць лекі, вітаміны для нашых хворых дзяцей. На гэты раз ён даставіў вітаміны на суму 950 тысяч нямецкіх марак. Джун Мэка з ЗША перадала 10 000 амерыканскіх долараў і 120 камплектаў дзіцячых вітамінаў. Усе гэтыя ахвяраванні былі перададзены ў Аксакаўшчыну, у санаторый "Беларусь", дзе лечацца маці з дзецьмі, што пацярпелі ад Чарнобыля, у Рэспубліканскі дыспансе[illegible] НДІ радыяцыйнай медыцыны.

**— "Радзіма" і "Бацьк[illegible]шчына" — ці магчыма супрацоўніцтва гэтых таварыстваў, ці не перашкаджаеце вы адно аднаму?**

— Я думаю, што работы хопіць усім. У кожнай з арганізацый ёсць сваё кола прыхільнікаў. Мы стараемся дапамагаць зем[illegible], чым можам. І яны Беларусі [illegible]каць па меры сваіх сіл. Што тычыць "Бацькаўшчыны", думаю, варта шукаць тое, што аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае, калі мы сапраўды хочам аб'яднаць усіх беларусаў свету, даць ім магчымасць адчуць цяпло і прыхільнасць роднай зямлі.

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ДНЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

# АБМЕРКАВАННЕ ШЛЯХОЎ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

23 ЛІПЕНЯ 1993 года ў Акадэміі навук адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная Дню незалежнасці Беларусі. На канферэнцыі, якую адкрыў і вёў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі, выступілі з дакладамі шасцёра вядомых навукоўцаў: этнограф, юрыст, гісторыкі і філолагі.

Васіль Бандарчык у дакладзе "Да пытання этнагенезу беларусаў" разгледзеў шэраг пытанняў, звязаных з фарміраваннем беларускага этнасу. У гісторыі беларускага этнасу дакладчык умоўна вылучае 2 перыяды. Першы — ад старажытных часоў да пачатку XVII стагоддзя — характарызаваўся фарміраваннем і развіццём беларускага этнасу. Падчас другога перыяду — ад XVII стагоддзя да распаду СССР — адбывалася "дыэтназацыя" беларусаў: спачатку паланізацыя, потым русіфікацыя. Бандарчык прытрымліваецца думкі, што існавала старажытнаруская народнасць і дзяржава. Ён лічыць, што фарміраванне беларускага, украінскага і рускага этнасаў пачалося пасля распаду Кіеўскай Русі. Першай самастойнай беларускай дзяржавай, на думку дакладчыка, было Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Канцэпцыі фарміравання беларускага этнасу адраджэнцаў пачатку XX стагоддзя (Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Цвікевіча) Васіль Бандырчык назваў "ультрапатрыятычнымі беларускімі тэорыямі". Бандарчык адмоўна ставіцца да тэорыі балцкага субстрату даследчыка В.Сядова.

Цікавым і грунтоўным быў даклад Міхаіла Біча. Ён разгледзеў цэлы шэраг пытанняў гісторыі дзяржаўнасці Беларусі ад старажытных часоў да 1918 года. Пачынаючы даклад характарыстыкай гістарыяграфічнай сітуацыі, Біч адзначыў, што з XIX стагоддзя доўга панавалі дзве канцэпцыі гісторыі беларускай зямлі: велікапольская і велікарасейская. У пачатку XX стагоддзя фарміруюцца беларускія канцэпцыі паходжання дзяржаўнасці. Беларускія тэорыі перад вайной развіваліся гісторыкамі ў асноўным у Заходняй Беларусі, пасля другой сусветнай вайны — у эміграцыйнай літаратуры. Як адзначыў М.Біч, хоць [illegible]тых тэорыях часам і сустракаюцца тэ[illegible]цыйныя перабольшванні, але ў цэлым гэта правільныя і здаровыя тэорыі.

У савецкай гістарыяграфіі знайшла свой працяг велікарасейская канцэпцыя, таму што ў савецкіх гісторыкаў паўсюдна пануе вывад аб існаванні старажытнарускай дзяржавы, сустракаюцца тэрміны "зах[illegible]я землі Русі". Тэзіс аб існаванні суцэ[illegible]й старажытнарускай дзяржавы з'яўляецца ненавуковым. Гэты вывад, адзначыў Міхаіл Біч, пацвердзіў даследаваннямі Валянцін Сядоў, а таксама беларускія археолагі.

Да сярэдзіны І тысячагоддзя нашай эры тэрыторыю сучаснай Беларусі засялялі балты. Беларускі этнас фарміруецца ў VI—X стагоддзях. Ужо ў сярэдзіне IX стагоддзя існавала самастойная дзяржава — Полацкае княства. Толькі ў 980 годзе Полацак быў часова далучаны да Кіеўскага княства. У пачатку XI стагоддзя пры Брачыславе Полацак зноў становіцца самастойным. Міхаіл Біч таксама адзначыў, што доўгі час у гістарыяграфіі сцвярджалася, што ВКЛ — чужая беларускаму народу літоўская феадальная дзяржава. Напярэдадні XIII стагоддзя беларускія землі знаходзіліся на больш высокай ступені развіцця, у беларусаў быў большы вопыт дзяржаўнага будаўніцтва, чым у літоўцаў (жамойтаў). Утварэнне ВКЛ было абумоўлена не ў апошнюю чаргу знешняй пагрозай: з боку крыжакоў і мангола-татараў. Міхаіл Біч у дакладзе паказаў развіццё беларускай дзяржаўнасці ў Вялікім Княстве Літоўскім, прычыны і абставіны заняпаду, адзначыў, што з сярэдзіны XVII стагоддзя хуткімі тэмпамі ідзе паланізацыя. У пачатку XIX стагоддзя адраджаецца беларускі нацыянальны рух. Ён меў нацыянальна-культурны характар. Першая спроба практычнага аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, на думку Міхаіла Біча, адбылася падчас паўстання Кастуся Каліноўскага, а таксама ў час стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Уладзімір Гніламёдаў у сваім дакладзе разгледзеў адносіны вялікага беларускага паэта-прарока Янкі Купалы да адраджэння беларускай дзяржавы. Паэт актыўна фарміраваў самасвядомасць народа, падтрымаў абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. У.Гніламёдаў у дакладзе выкарыстаў вершы Янкі Купалы, якія нідзе не друкаваліся ў савецкі час, такія, як "Пчолы" "Свайму народу", "Світае" і інш. Усё гэта рабіла даклад вельмі цікавым і змястоўным.

З дакладам "Дзяржаўны суверэнітэт БССР — рэальны і ўяўны" выступіў Леанід Лыч. Ён адзначыў, што БССР, якая праіснавала 72 гады 8 месяцаў і 19 дзён, так і не мела рэальнага суверэнітэту і незалежнасці. Ужо з самага пачатку стварэння БССР Расія і Польшча разглядалі Беларусь як нічыйную тэрыторыю. Нічога не змяніла і ўступленне БССР у ААН. БССР у савецкі перыяд была навязана такая эканамічная сістэма, якая пры разрыве прывяла нашу гаспадарку амаль да поўнага краху. Вялікія страты былі ў галіне культуры. Адбылася масавая дэнацыяналізацыя.

У дакладзе "Суверэнітэт Рэспублікі Беларусь. Цяжкасці станаўлення і развіцця" Віктар Шабайлаў адзначыў, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі мае гістарычнае значэнне. Стварэнне БНР — важны этап на шляху да беларускай дзяржаўнасці, дало штуршок для ўтварэння БССР. На думку В. Шабайлава, рэальны суверэнітэт Беларусі цяпер немагчымы, таму трэба ісці на эканамічны, а калі неабходна, то і на ваенны саюз з Расіяй.

Аркадзь Жураўскі ў сваім дакладзе паказаў узаемны ўплыў мовы і дзяржаўнасці на працягу існавання Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Страта народам сваёй мовы па сутнасці з'яўляецца знікненнем самога народа.

Канферэнцыя ў цэлым пакінула добрае ўражанне. Яна паказала, што беларускія навукоўцы шчыра заклапочаны лёсам сваёй дзяржавы.

**Валянцін МАЗЕЦ.**





**Мы вяртаемся да свайго мінулага, ушаноўваем помнікі і рэліквіі, звязаныя з нацыянальнай гісторыяй.**

**Капліца ў гонар перамогі паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага над царскімі войскамі была ўзведзена ў пачатку нашага стагоддзя пад вёскай Мілавіды Баранавіцкага раёна, дзе адбылася бітва. Зараз тут землі калгаса імя Дзяржынскага. На яго сродкі і адрэстаўрыравана капліца, разбураная ў савецкі час, дабраўпарадкавана тэрыторыя вакол яе.**

**Паявілася цяпер у Мілавідах і вуліца Паўстанцаў 1863 года. Мясцовай школе прысвоена імя народнага генерала Аляксандра Лянкевіча, які кіраваў гістарычнай бітвай. А ля памятнага каменя, устаноўленага ў гонар гэтай падзеі, заўсёды жывыя кветкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае адрэстаўрыраваная капліца; старшыня Мілавіцкага сельсавета Аляксандр ШАВЕЛЬ і старшакласнікі мясцовай школы ля памятнага каменя.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

*ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ*

# ЗАБЫТЫ ПАЭТ З АШМЯНШЧЫНЫ

Той, хто трымаў у руках заключныя тамы збораў твораў Адама Міцкевіча розных выданняў, тамы, дзе звычайна даецца эпісталярная спадчына паэта, не мог не заўважыць сярод шматлікіх яго адрасатаў і імя Антоні Эдварда Адынца, якое вельмі часта там сустракаецца. Гэта быў адзін з блізкіх сяброў Адама Міцкевіча і адначасова блізкі яму па духу, хоць і ніжэйшага ўзроўню, паэт.

Біяграфія Адынца вельмі тыповая для апалячанага беларускага інтэлігента XIX стагоддзя і разам з тым у нечым своеасаблівая, адметная.

Нарадзіўся ён 25 студзеня 1804 года ў вёсцы Гаістуны Ашмянскага павета ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў павятовай базыльянскай школе ў Барунах. Прычым, вельмі паспяхова, школьнае начальства хваліла яго і за прыкладныя паводзіны, за што вучні празвалі яго Любімчыкам.

У 1820 годзе Антоні Адынец паступіў у Віленскі універсітэт, каб вучыцца на юрыста. Адначасова наведваў лекцыі па літаратуры Готфрыда Эрнста Гродэка і Леана Бароўскага. Даведаўшыся пра ўтварэнне ва універсітэце тайнага Таварыства філарэтаў (сяброў дабрачыннасці), адразу запісаўся ў гэтае вельмі прыцягальнае для яго згуртаванне, стаў членам яго літаратурнага аддзела, які называлі Блакітным саюзам. Кіраваў гэтым саюзам прызнаны ўжо сярод філаматаў (сяброў навук) і філарэтаў паэт Ян Чачот. Убачыўшы яўныя паэтычныя здольнасці Адынца, Чачот узяў яго пад сваю апеку. За гэта філаматы і філарэты празвалі Чачота Ментарам, а Адынца — Тэлемакам (паводле грэчаскай міфалогіі, Ментар быў выхавальнікам Тэлемака, сына Адысея і Пенелопы).

Маладому семнаццацігадоваму хлопцу з Ашмяншчыны, які даўно захапляўся паэзіяй, вельмі цікава было слухаць на сходах вершы трошкі старэйшых за яго сяброў, спрэчкі аб прачытаным, дыскусіі і дыспуты на літаратурныя, а то і палітычныя тэмы, удзельнічаць у сяброўскіх маёўках і розных урачыстасцях. На гэтых урачыстасцях сустрэўся ён упершыню са славутымі ўжо ў той час паэтамі Тамашом Занам, старшынёй Таварыства філарэтаў, і Адамам Міцкевічам, які прыязджаў на тыя ўрачыстасці з Коўна, дзе рабіў настаўнікам. Пра першую сустрэчу з Адамам Міцкевічам расказвае ў сваіх успамінах сам Антоні Адынец. Было гэта, прыгадвае аўтар, у маі 1821 года на другі дзень Зялёных святак на ўрачыстай сходцы ў гонар Тамаша Зана ў гарах за Вільняй, пад Маркуцамі. Свята доўга не пачыналі: чакалі прыезду Адама Міцкевіча. "Старэйшыя, расказвае Антоні Адынец, пайшлі яго сустракаць, мне сказаў Чачот ісці з ім. Неўзабаве ўбачылі дрожкі, коні ляцелі чвалам, і Малеўскі памахваў адтуль у паветры белай хусткай — падаваў знак, што вязе чаканага госця. Пласкагор'е з боку горада канчалася стромым схілам, дарога кружыла па ім. Дрожкі нарэшце суняліся ўнізе, у падножжы схіла, і абодва хлопцы без дарогі падымаліся на гару, дзе мы стаялі, чакаючы іх... Міцкевіч махаў шапкай, вітаючы нас, але хоць ужо быў блізка і хоць я глядзеў ва ўсе вочы, твару яго зверху не мог убачыць. Чачот першы узяў яго ў абдымкі, і яны ціскалі адзін аднаго. Потым не менш сардэчна віталі яго іншыя знаёмыя. Я, самы малады і незнаёмы, стаяў збоку і быў апошні, каго Чачот да яго падвёў. Міцкевіч кінуў на мяне праніклівы позірк і, прыязна ўсміхаючыся, папытаў у Чачота: "Ці не той самы гэта Любімчык-Тэлемак?" А калі Чачот, смеючыся, пацвердзіў, ён падаў мне па-сяброўску руку і таксама з усмешкай запытаў: "А Ментар усё яшчэ строгі?" Я не адказаў ні слова: гэтакі быў разгублены, асабліва ад яго праніклівага позірку".

У час вучобы ва універсітэце Антоні Адынец зблізіўся таксама з сям'ёю Саламеі Бэцю — маткі Юльюша Славацкага, якога ведаў, калі той быў яшчэ малым хлапчуком, наведваў кватэру славутага гісторыка Іаахіма Лялевеля, пасябраваў з Аляксандрам і Ігнатам Ходзькамі, Антонімам Гарэцкім, Юльянам Корсакам, іншымі філарэтамі і філаматамі.

У 1823 годзе, калі царскімі ўладамі было выкрыта Таварыства філар[illegible] Антоні Адынца арыштавал[illegible] разам з сябрамі кінулі ў турму, адкуль выпусцілі толькі ў канцы следства.

Нейкі час жыў Антоні Адынец у Варшаве, дзе яго як пацярпелага ад цар[illegible]му сябра славутага Тавары[illegible] філарэтаў з прыязнасцю прыняла творчая інтэлігенцыя. Працаваў ён там у розных перыядычных выданнях, выдаў два ці тры альманахі-штогоднікі "Мелітэле", што мелі шырокі грамадскі рэзананс, распачаў разам з Валерыянам Красінскім працу над выданнем мнагатомнай "Усеагульнай энцыклапедыі", якую давялося з-за недахопу сродкаў перапыніць.

Вельмі даражыў Антоні Адынец сяброўствам з Адамам Міцкевічам. Калі высланы ў Расію старэйшы сябра намерыўся выехаць адтуль за мяжу, сваім спадарожнікам у паездцы па краінах Еўропы ён выбраў Антоні Адынца. Падарожжа іх доўжылася аж чатырнаццаць месяцаў. Сябры аб'ездзілі многія гарады і паселішчы Германіі, Італіі, Швейцарыі, іншых краін. Назаўсёды запомнілася абодвум гасцяванне ў І.В. Гётэ ў Веймары, пра што Антоні Адынец падрабязна расказаў потым ва ўспамінах. Між іншым у шматлікіх размовах з двума славянскімі паэтамі вялікі нямецкі паэт вельмі зацікавіўся народнымі песнямі, матывы якіх выкарыстоўваў у сваёй творчасці Адам Міцкевіч. "Гётэ, прыгадваў Адынец, з жывой цікавасцю распытваў і слухаў тое, што Адам, а часткова і я расказвалі яму аб разнастайнасці і адрозненнях у характары і тоне песень нашых правінцый". А як вядома, "правінцыі" Адама Міцкевіча і Антоні Адынца — Навагрудчына і Ашмяншчына. Значыць, якраз беларускія народныя песні зацікавілі Гётэ, які за абедзенным сталом пачутае пра гэтыя песні "амаль слова ў слова" пераказваў потым іншым, напрыклад, свайму сакратару нямецкаму пісьменніку Е.П. Экерману.

Развітаўся Антоні Адынец з Адамам Міцкевічам у 1830 годзе ў Жэневе. У тым жа годзе прыязджаў ён яшчэ ў Парыж, дзе сустракаўся з многімі славутасцямі Францыі, напрыклад, Віктарам Гюго. Наведаў таксама Лондан. Некалькі гадоў жыў у Дрэздэне. Сюды ж прывёз ён Зоф'ю з Мацкевічаў (сястру жонкі Ігната Ходзькі), з якой узяў шлюб у Круляўцы. Дарэчы, яе добра ведаў і шанаваў Адам Міцкевіч, якраз у яе гонар ён назваў адну з галоўных гераінь "Пана Тадэвуша".

У 1837 годзе Антоні Адынец вярнуўся ў свае Гаістуны, а потым пераехаў у Вільню, дзе дванаццаць гадоў — з 1840 па 1859 год — рэдагаваў урадавую газету на польскай і рускай мовах "Кур'ер Віленьскі".

Сямейныя абставіны прымусілі Антоні Адынца пераехаць у 1866 годзе ў Варшаву ўслед за дачкой, якая выйшла туды замуж. Там узяўся ён рэдагаваць газету "Кур'ер Варшаўскі", але неўзабаве кінуў, бо не меў ужо сіл цягнуць цяжкі рэдакцыйны воз. Да канца жыцця супрацоўнічаў з газетай "Кроніка Родзінна", якую рэдагавала сястра яго зяця Аляксандра Баркоўская.

Як сведчаць сучаснікі, быў Антоні Адынец чалавек добрага нораву, таварыскі, добразычлівы, вельмі дасціпны і "даступны". За тое, што надта любіў цалаваць дамам рукі, яго празвалі "панам Смактальскім".

Памёр Антоні Эдвард Адынец у 1885 годзе ў Варшаве, дзе і пахаваны.

На паэтычную дарогу Антоні Адынец ступіў вельмі рана, яшчэ ў Барунскай школе. Але толькі тут, ва універсітэце, сама атмасфера святасці да ўсяго ўзвышанага, само вірлівае студэнцкае асяроддзе спрыялі паэтычнай творчасці. Падахвочваў яго да паэзіі і прафесар Леан Бароўскі, які шмат у чым дапамагаў маладому аўтару.

У студэнцкія гады малады паэт даволі актыўна выступае на старонках віленскага друку — у такіх выданнях, як "Тыгоднік Віленьскі", "Дзённік Віленьскі", "Дзее Доброчынносьці Краёвэй і Заграніченэй" і іншых. З прыхільнасцю сустракаюць чытачы яго пераклады на польскую мову. Што ж да ўласных вершаў Адынца, то на іх відаць яўныя сляды перайманні ў Міцкевіча. Трохі звысоку, "паментарску" глядзеў на паэтычныя практыкаванні Антоні Ян Чачот. У пісьме да Адама Міцкевіча ён зазначаў: "Адынус хацеў бы, каб пра яго вершы ведаў увесь свет, а больш за ўсё прыгожая яго палавіна, ён жыве для друку і для славы, гэта адзіная мэта яго творчасці". Пэўне ж, тут ёсць доля праўды, але хто ж з маладых не марыць пра славу?

Сапраўдную папулярнасць прынесла Антоні Адынцу "Песня філарэтаў", якая была напісана, калі малады паэт разам з сябрамі-філарэтамі апынуўся ў турме ў час следства над віленскімі згуртаваннямі моладзі.

У ім адчуваецца маральная перавага зняволеных студэнтаў над царскімі паслугачамі; выказваецца глыбокі аптымізм маладых патрыётаў:

**Прэч ад нас, прэч,**
**смутку хмары!**
**Лепш падымем хмелю чары!**
**Вышай голаў — хай вясёла**
**Тут ляціць наш час!..**

**З намі будуць нашы леты,**
**Vivat, брацці філарэты!**
**Сцерпім мужна,**
**з песняй дружнай**
**Мы няволі дні!**

**Далівай жа чары, Стасе** (*адзін з філарэтаў.* **— К.Ц.**),
**Часу шмат яшчэ ў запасе!**
**Гэй, аддана п'ём за Зана,**
**Vivat, Тамаш Зан!**

**Ёсць, сябры, на свеце цнота!**
**Хто ж больш годны за Чачота!**
**П'ём за Яна ўсе з пашанай —**
**Vivat, Чачот Ян!**

**За Міцкевіча здароўе!**
**Хай тут нас усцешыць**
**зноў ён!**
**Нам надзеі ўсім навее**
**Боскай лютні гук.**

**Дружна ўгору**
**ўзнімем шклянкі!**
**П'ём за вас цяпер, каханкі!**
**Шмат губляе, хто не знае**
**Ласкі мілых рук!..**

(*Пераклад мой.* — **К.Ц.**).

Нарадзіўшыся ў турэмных сценах, песня вельмі хутка паляцела ў шырокі свет. Спявалі яе па ўсёй Беларусі. Перажыла песня і самога аўтара: яе можна было пачуць на Беларусі і ў пачатку новага, XX стагоддзя.

Падсумаваннем творчасці маладога Адынца стаўся двухтомны зборнік яго ўласных вершаў і перакладаў, першы том якога выйшаў у 1825, а другі — у 1826 годзе пад назвай "Паэзія".

Жывучы ў Варшаве, малады паэт напісаў таксама "рыцарскую драму" ў трох актах "Ізора", над якой працаваў каля трох гадоў. Хоць і была яна напісана ў рамантычным стылі, яе не прынялі вялікія рамантыкі Юльюш Славацкі і Адам Міцкевіч. Першы ахарактарызаваў яго як "твор вялікага аб'ёму, але вельмі малой вартасці". Адам Міцкевіч у сваю чаргу не раіў паэту нават друкаваць "Ізору", бо яна "жвывая ў самой задуме і ў самой пабудове; дарэмна папракаць тыя ці іншыя сцэны, пячыць члены, калі ўсё цела ад нараджэння хворае і ў ім цячэ кепская кроў..." Але нягледзячы на суровую крытыку вялікіх сяброў, Адынец не ўтрымаўся ад спакусы бачыць свой твор апублікаваным. Здаецца, ён нават ставіўся на сцэне.

Больш удалай атрымалася яго таксама вершаваная драма "Феліцыта, альбо Карфагенскія мучанікі", напісаная значна пазней. Заснаваў яе аўтар на гістарычных фактах пачатку III стагоддзя. Прачытаўшы гэты твор, Адам Міцкевіч так пісаў пра яго аўтара: "Я не спадзяваўся, што сіла яго так хутка і шырока разгорнецца". Але Міцкевіч, відаць, меў тут на ўвазе чыста мастацкі бок твора. Бо што да зместу, то за яго ў штыкі сустрэла твор дэмакратычная грамадскасць, крытыкуючы яго кансерватыўна-клерыкальную накіраванасць. Студэнты Дэрпцкага універсітэта нават публічна спальвалі гэтую драму.

Яшчэ больш падарваў рэпутацыю Антоні Адынца яго панегірык у гонар цара Аляксандра II, напісаны для спецыяльнага "Альбома" — паднашэння з выпадку прыезду рускага самадзержца ў 1857 годзе ў Вільню. Грамадскасць Вільні адкрыта выказвала непарэборлівасць аўтару сваё абурэнне.

У 1858 годзе была напісана, а праз два гады выдадзена драматычная паэма Антоні Адынца ў шасці актах "Барбара Радзівіл, ці Пачатак панавання Жыгімонта Аўгуста". Хоць аўтар і падымаў у творы важныя праблемы маралі, усё ж драму псавала залішняя ідэалізацыя галоўнай яе гераіні, а таксама адступленне ад праўды гісторыі.

Найбольш каштоўным творам у спадчыне Антоні Адынца крытыка прызнала яго напісаныя ў 1875—1878 гадах "Лісты з падарожжа", даволі падрабязныя, з важнымі дэталямі і фактамі ўспаміны пра падарожжа ў 1829—1830 гадах аўтара разам з Адамам Міцкевічам па Еўропе. Вельмі добра дапаўняе іх і кніга "Успаміны з мінулага", якая была напісана Адынцом на старасці год і ў якой шмат цікавага, пазнавальнага пра мінулае нашай зямлі можа знайсці і сённяшні чытач.

Да канца жыцця не кідаў пісаць Антоні Адынец і вершы. Найбольш удалыя з іх тыя, дзе аўтар звяртаўся да жыццёвых рэалій, да фальклору, пераважна беларускага. На фальклорных матывах заснавана, напрыклад, яго балада "Паланянка ліцвіна" пра захопленую "літоўскім" ваярам у час аднаго з баявых паходаў на польскія землі маладую польку. Дарэчы, гэты ж, відаць, у свой час распаўсюджаны сюжэт пазней выкарыстаў у баладзе "Ляшка" другі беларускі польскамоўны паэт Тадэвуш Лада-Заблоцкі. Выразныя фальклорныя матывы відаць і ў баладах "Сон Алесі", "Русалкі", у вершы "Хохлік" і іншых творах. Шмат у Адынца і вершаў, напісаных у гонар вядомых літаратараў і вучоных ("На шлюб Тамаша Зана", "Адаму Міцкевічу", "Адаму Сузіну", "Ігнату Ходзьку", "Надпіс на надмагільным помніку Яну Чачоту ў Ротніцы", "Яўстафію Тышкевічу", "Міхалу Балінскаму", "Уладзіславу Сыракомлю" і інш.). Адным з апошніх у Антоні Адынца быў верш "На камені ў Крашыне", напісаны ў гонар наведання ў 1884 годзе разам з Ігнатам Дамейкам Крашына пад Баранавічамі (гэты верш быў адбіты там на памятным камені). Ёсць у Антоні Адынца (зазначым як факт гісторыі) і творы, напісаныя сумесна з Юльюшам Славацкім і Адамам Міцкевічам.

Хай не сарваў зорак з неба Антоні Эдвард Адынец, усё ж яго творчасць — даволі цікавы факт няпростай гісторыі нашай літаратуры, якая пісалася ў XIX стагоддзі ў асноўным на польскай мове. А без гэтых фактаў ніяк нельга ўявіць жывы літаратурны працэс на Беларусі таго часу, вытокі беларускага нацыянальнага адраджэння.

**Кастусь ЦВІРКА.**

# ЛАХВА

(Працяг. Пачатак на 7-й стар.).

Колькасць насельніцтва мястэчка каля 800 душ, большасць яўрэяў, занятых дробным гандлем, скупкай лясных тавараў і рыбы. Сяляне мясцовыя вядомыя як майстры пляцення кошыкаў. Лахвінскія ўладанні разам з фальваркамі Любачын і Воля маюць каля 1 000 валок (старая мера плошчы, роўная 16,8 гектара. — **Л.К.**) пераважна ў лясах і лугах. Зямля лёгкая, пясчаная, млыны, вінны водкуп і рыбалоўства даюць больш за 7 000 рублёў серабром.

У пачатку XIX стагоддзя ў Лахве была даволі вялікая фабрыка плеценай мэблі.

У 1816 годзе тут нарадзіўся ад бацькі Станіслава, палкоўніка войск польскіх, і маці Сафіі з дома Абуховічаў, Марыян Чапскі, аўтар вядомай "Гісторыі каня" і манаграфіі пра пчалу.

Перш чым расказаць аб некаторых гістарычных фактах з жыцця мястэчка Лахва XYII стагоддзя, успомнім, што гэта быў век прыцяснення праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, актывізацыі каталіцызму і уніяцтва, акаталічвання і апалячвання мясцовага беларускага насельніцтва. Феадалы, князі-каталікі зачынялі цэрквы, разбуралі праваслаўныя манастыры, перадавалі іх уніятам. Праваслаўнаму духавенству не было каму скардзіцца. Спашлёмся на дакументы Трайчанскага архіва (Слуцкага св.Троіцкага манастыра), апублікаваныя ў зборніку "Минская старина". З іх вынікае, што ў самой Лахве ці яе наваколлях у сярэдзіне XYII стагоддзя знаходзіліся ўладанні архімандрыта Слуцкага Феадосія Васілевіча, які быў таксама ігуменам Дзятлавіцкага манастыра. Дакументы не даюць дакладнага адказу аб памеры гэтых уладанняў, з іх толькі вынікае, што ў канцы 50-х гадоў XYII стагоддзя Феадосій Васілевіч падоўгу бываў у Лахве, напісаў там многа розных папер і пісем, якія канчаліся словамі: "Дадзена ў Лахве 1659 года". У адным з такіх пісем на імя кіраўніка ўсіх маёмасцей Пятра Дамішэўскага ад 14 сакавіка 1659 года даюцца ўказанні аб нарыхтоўцы прадуктаў і прывозе салёнай рыбы ў Лахву. Але не толькі такія паўсядзённыя мірныя дакументы расказваюць пра Лахву XYII стагоддзя. Ёсць і такія, што апавядаюць пра агрэсіўныя дзеянні князя Радзівіла ў адносінах да Феадосія Васілевіча. Вось "напис из книг гродских замку господарского воеводства Новогородского. Року 1659, дня 10 апреля". У гэтай выпісцы гаворыцца, што архімандрыту Слуцкаму Ф.Васілевічу ў маёнтку Лахва генералам ад князя быў паказаны "напіс" (пісьмо) пры сведках, у якім князь Міхал Казімір Радзівіл паведамляе, што за 10 000 злотых ён купіў маёнтак Лахва і патрабуе, "чтобы архимандрит означеное имение уступил", г.зн. пакінуў. Відаць, "маёнтак Лахва" — гэта не само мястэчка, якое, мяркуючы па розных гістарычных дакументах, стала ўласнасцю Радзівіла ў 1620 годзе, а нейкая яго частка, што была ва ўладанні Ф.Васілевіча. Няма даных, як сустрэў гэта паведамленне-загад архімандрыт Слуцкі, але ён не пакінуў Лахву. І знаходзіўся там да 1662 года. Пра гэта гаворыць наступны дакумент — выпіска з "Книг гродских" ад 10 кастрычніка 1662 года, і расказвае яна пра скаргу на князя Міхала Казіміра Радзівіла, кашталяна Віленскага, яго слуг, баяр і зямян. Сутнасць гэтай скаргі такая. У 1659 годзе Радзівіл пазычыў у Васілевіча 20 000 злотых і даў яму ў "заставу" на 2 гады маёнтак Лахву з умовай, што калі ў 1661 годзе ён не верне пазыку, то маёнтак застаецца яшчэ на два гады ва ўладанні Васілевіча. Пра гэты дагавор, ці ўмову, у архімандрыта меліся законныя дакументы. Але нягледзячы на незварот грошай, на дамоўленасці, князь Радзівіл у 1662 годзе паслаў на Лахву сваіх служачых з баярамі, зямянамі і драгунамі з арматамі, і яны сілай г[illegible] усілі Васілевіча пакінуць Ла[illegible] пры гэтым пагражалі яго забіць і затрымалі ў Лахве ўсю яго маёмасць — золата, серабро, волава (маецца на ўвазе алавяны посуд), царкоўныя пасудзіны, жывёлу, зерне, якое было звезена з розных маё[illegible] з мэтай перавезці байдар[illegible]і ў Слуцк". Далей ў дакуменце гаворыцца, што слугі князя захапілі гатовыя да адпраўкі ў Слуцкі манастыр байдаркі з мёдам, салёнай рыбай, сушанымі грыбамі і іншымі прыпасамі, прычыніўшы страты амаль на 15 тысяч злотых. На жаль, няма больш ніякіх дакументаў, якія б расказалі аб выніках гэтай скаргі, пра Васілевіча і пра Лахву. Ясна толькі, што, скарыстоўваючы права моцнага, князь Радзівіл пазбавіўся ад грашовага доўгу, набыў маёнтак, а скарга Васілевіча засталася без выніку, як і ўсе скаргі таго часу, што зыходзілі ад праваслаўнага духавенства. Пра жыццё Лахвы ў XYIII і пачатку XIX стагоддзяў маюцца ўрывачныя звесткі.

У другой палове XIX стагоддзя, у 70-х гадах, у Лахве штогод праводзіўся Георгіеўскі кірмаш. Гэта было заўсёды 23 красавіка. На кірмашы можна было купіць жывёлу, льняныя і пяньковыя тканіны мясцовай вытворчасці, вяроўкі, збрую, свечкі, мыла, ганчарныя вырабы, вырабы з дрэва — цэбры, бочкі, ночвы, пляцёнкі з бяросты і лазы, зерне, рыбу, ліпавыя рыдлёўкі і скураны абутак ручной работы, іншыя тавары сялянскага гандлю. Тавараварот Лахвенскага кірмашу складаў 700—1 000 рублёў.

На чале мяшчанскай управы Лахвы значыўся стараста — старшыня. Гэтую пасаду амаль заўсёды займалі асобы яўрэйскай нацыянальнасці. Дзяржаўнай палітыкай на месцах прадугледжвалася, што ў органах самакіравання павінны быць прадстаўлены асобы розных нацыянальнасцей, якія абаранялі інтарэсы тых ці іншых слаёў насельніцтва. У Лахве ўсе гандлёвыя людзі былі яўрэйскай нацыянальнасці, што і было прадстаўлена ў мяшчанскай управе. У 1910 годзе гэтую пасаду займаў Моўша Кандратовіч, у 1912 — Лейзер Нейман. Валасным праўленнем кіраваў старшына Н.Шулякевіч (1910 год) і Н.Ляніўка (1912 год) пры пісары Іване Катушку.

У лютым 1886 года ўступіла ў строй чыгунка Лунінец—Гомель. Ветка дарогі пралягла недалёка ад мястэчка. Было пабудавана драўлянае памяшканне станцыі, і ва ўсе чыгуначныя даведнікі імперыі ўпісана новая назва — станцыя Лахва. Чыгунка ўнесла вялікія перамены ў жыццё мястэчка. У ім з"явіліся новыя людзі — чыгуначнікі, утворана грузавая пляцоўка для пагрузачных работ, з"явіліся рабочыя месцы, мясцовая інтэлігенцыя з чыгуначных служачых. Начальнікам станцыі Лахва ў 1910 годзе быў І.Хломаў, у 1912 годзе яго змяніў П.Тарчэўскі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**

## МАЙСТРЫ



**Прыгожая зямля нараджае прыгожых душой, таленавітых людзей. І таму не дзіўна, што браслаўскі край вельмі багаты народнымі ўмельцамі, самабытнымі майстрамі.**

**Міхаілу Чаркасу ў жыцці ўсяго дасталася: і ваяваць прыйшлося, і адраджаць пасля вайны работу Слабодкінскага Дома культуры. Затым, закончыўшы завочна інстытут, трыццаць пяць гадоў вучыў дзяцей, атрымаў званне заслужанага настаўніка.**

**А калі выйшаў на пенсію, Міхаіл Баляслававіч заняўся саломапляценнем. Майстэрства гэтае было для яго не ў навінку. Бацька, ды і ўся зёска плялі саломенныя капелюшы. Успомніліся ўрокі дзяцінства, кнігі дапамаглі, а яшчэ — курсы па саломапляценню, на якія накіраваў яго Браслаўскі краязнаўчы музей.**

**Капелюшы, кашолкі, пацеркі і іншыя вырабы майстра з Слабодкі вабяць фантазіяй і выдатнай тэхнікай выканання. І сёння Міхаіл Чаркас — пастаянны ўдзельнік усіх выставак і кірмашоў у раёне і вобласці.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: М. ЧАРКАС за працай; вырабы майстра.**

**Фота аўтара.**



## ЗНАЁМСТВА З ЗАМЕЖЖАМ

Матэрыялы другой кнігі "Культура беларускага замежжа" выдавецтвам "Навука і тэхніка" былі здадзены ў набор 9 чэрвеня сёлетняга года, а ўжо 1 ліпеня яе падпісалі ў друк. Друкарня імя Ф.Скарыны гэтага ж выдавецтва таксама пастаралася, і жаданы томік атрымалі дэлегаты і госці Першага з'езда беларусаў свету.

Адкрываецца кніга артыкулам кіраўніка Часовага творчага калектыву пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь (ён жа складальнік кнігі) А.Сабалеўскага "Зліквідоўваючы прагалы", у якім расказваецца, як рыхтавалася гэтае выданне.

Як і ў першай кнізе (яна выйшла некалькі месяцаў назад), цэнтральнае месца займае раздзел "Постаці". У ім — нататкі М.Мішчанчука пра жыццё і творчасць А.Салаўя "Да скарбаў сусвету імкнуся...", артыкулы А.Ліса "Паэзія Хведара Ільяшэвіча", А.Сабалеўскага "Ля вытокаў культурнага Адраджэння (Данчык у Беларусі)", развагі С.Берасцень пра лёс М.Куліковіча-Шчаглова "І жадаў стаць казачнай няўгледкай...".

У раздзеле "Выданні" А.Марціновіч аглядае літаратуру Беласточчыны ("Раку жывяць ручаіны"), Л.Маленка перагортвае старонкі газеты "Беларус" ("Амерыканскія беларусы і іх жыццё ў мастацтве"), У.Мамонька запрашае — "Чытайце "Беларускі каляндар".

"Асяродкі" — новы раздзел "Культуры беларускага замежжа". Т.Гаробчанка расказвае пра Кліўлендскі беларускі грамадска-асветніцкі цэнтр "Полацак" — "Часцінка Бацькаўшчыны на чужыне", Я.Адамовіч выступае з артыкулам "Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта".

Цяпер нанова створаны Часовы творчы калектыў рыхтуе чарговы, трэці выпуск зборніка "Культура беларускага замежжа".

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1130. Падпісана да друку 9. 08.1993 г.